ПАГОНЯ

Чацвер
15 чэрвеня 2000 г.
№ 21 (468)
Кошт 70 рублёў

## Увялі яшчэ адну ліцэнзію

**З 1 ліпеня ў Гродне ўводзяцца новыя ліцэнзіі на аптовы гандаль.**

У адпаведнасці з рашэннем гарвыканкама іх абавязаны атрымаць юрыдычныя асобы і індывідуальныя прадпрымальнікі, якія ажыццяўляюць гандлёвую пасрэдніцкую дзейнасць па аптовым гандлі таварамі няўласнай вытворчасці шляхам заключэння дагавораў куплі-продажу і мены. Тэрмін дзеяння ліцэнзіі - 5 гадоў.

Атрыманне дазволу на аптовы гандаль таварамі ўласнай вытворчасці не патрабуецца. Выключэнне таксама зроблена для імпарцёраў, якія ажыццяўляюць аптовы гандаль таварамі замежнай вытворчасці, і ўсіх суб'ектаў гаспадарання, якія займаюцца аптовым гандлем замежнымі вытворчымі таварамі, прызначанымі для непасрэднага спажывання грамадзянамі.

## Да Менска на «кукурузніку»

**З 16 чэрвеня Гарадзенскі аэрапорт адкрывае новы пасажырскі рэйс «Гродна - аэрапорт «Менск-1».**

Аднавіць палёты ў Менск планавалася яшчэ ў панядзелак, 12 чэрвеня. Аднак з-за непастаўкі бланкаў на білеты кампаніі «Белавія» каса не здолела ажыццявіць продаж білетаў тым, хто меў жаданне хутка даляцець да сталіцы.

Рэгулярныя палёты ў сталіцу будуць ажыццяўляцца па панядзелках, пятніцах і суботах самалётам «АН-2» - па-народнаму - «кукурузнікам» са змяшчальнасцю 10 пасажыраў. Працягласць палёту складае 1 гадзіну 15 хвілінаў; кошт білета - 8 тысяч 800 рублёў.

Нагадаем, што палёты з Гродна ў Менск меркавалася распачаць яшчэ год таму. Аднак тады ад гэтай ідэі мусілі адмовіцца з-за рэзкага падаражання авіяцыйнага паліва.

А.С.

## На што патрачаны мільён еўра?

**9 чэрвеня ў Гарадзенскім аблвыканкаме адбылося пасяджэнне рабочых груп, якія займаюцца рэалізацыяй праекта «Рэгіянальнае развіццё і ахова прыроды ў еўрарэгіёне «Нёман».**

Праект дзейнічае ў межах рэалізацыі праграмы TACIS па трансмежавым супрацоўніцтве і фінансуецца Еўрапейскім Саюзам. На ягоную рэалізацыю ў Гарадзенскай вобласці выдаткаваны 1 мільён еўра. Праект накіраваны на ахову гісторыка-культурных і прыродных багаццяў Прынёмання, развіццё рэгіянальнага і міжнароднага турызму. Удзельнікі пасяджэння, сярод якіх - эколагі, гісторыкі, праекціроўшчыкі, замежныя эксперты, разгледзелі праекты па ахове прыроды на тэрыторыі вобласці і стратэгіі развіцця ўстойлівага турызму.

На Гарадзеншчыне праект рэалізуецца з лістапада 1998 года, разлічаны на 22 месяцы і завершыцца сёлета ўвосень.

Ася Куніцкая

## Лепш быць здаровым

**Адным з самых незабяспечаных медычнымі кадрамі ў Гарадзенскай вобласці зьяўляецца Смаргоншчына.**

Тут не хапае 26 дактароў і 33 сярэдніх медычных работнікаў. З прычыны іх адсутнасці ў вёсках раёну не працуе чатыры фельчарска-акушэрскія пункты.

Ул. інф.




**16, 17 чэрвеня** - пераменная воблачнасць, на большай частцы тэрыторыі - ападкі, вецер паўночна-заходні, 7-12 м/с. Тэмпература паветра 16 чэрвеня - уначы +5...+10, удзень +12...+17; 17 чэрвеня - уначы +4...+9, удзень +11...+16.

# Аб мове бацькоўскай забудзьце, панове!

**Будаўніцтва школы з польскай мовай навучання ў Навагрудку пакуль што адкладаецца. Гэта стала вядома пасля адмоўнага рашэння, прынятага 9 траўня дэпутатамі раённага Савета. На пасяджэнні прысутнічаў старшыня Саюза палякаў на Беларусі Тадэвуш Гавін. Ён тлумачыць сітуацыю і дзеліцца сваімі ўражаннямі.**




- Ідэя наконт школы з польскай мовай навучання ў Навагрудку ўзнікла ў час падрыхтоўкі святкавання 200-годдзя са дня нараджэння Адама Міцкевіча.

Напачатку ніякіх супярэчнасцяў не было. Штогод напаўняліся польскамоўныя пачатковыя класы ў школах горада. Рэзкая змена настрояў «вертыкалі» адчулася тады, калі на парадак дня паўстала пытанне менавіта пра асобную школу з польскай мовай навучання.

***- Пытанне пра пабудову школы застаецца адкрытым ужо чатыры гады, а райсавет толькі зараз раптоўна вырашыў разгледзець праблему...***

- Раней старшыня раённага выканаўчага камітэта спадар Анатоль Ліс асабіста не даваў дазволу на пабудову школы. Нават не за дзяржаўныя грошы. Ён рабіў гэта не па ўласнаму жаданню. Ёсць больш высокія начальнікі, напрыклад, намеснік старшыні аблвыканкама Марыя Бірукова. Вядома палякам і віцэ-прэм'ера беларускага ўрада Уладзіміра Замяталіна. Ці не гэта працяг царскай, а затым савецка-партыйнай палітыкі кіраўніцтва былой БССР на гвалтоўную русіфікацыю «Северо-западного края»?

***- Аднак на прэс-канферэнцыі 2 чэрвеня падчас правядзення свята нацыянальных меншасцяў Беларусі ў Гродне Вы заявілі, што польская грамада краіны прымае ўдзел у фестывалі таму, што назіраецца паразуменне Саюза палякаў на Беларусі і «вертыкалі».***

- Сапраўды, я так казаў, бо ў верасні 1999 года старшыня аблвыканкама Аляксандр Дубко паабяцаў, што дазвол на стварэнне школы ў Навагрудку будзе дадзены абавязкова. Тое ж ён паўтарыў мне крыху пазней у час прыватнай гутаркі. Як жа не паверыць! Мы адразу пачалі рыхтаваць праект дамовы з адміністрацыяй Навагрудскага раёна. Затым адбыўся незразумелы паварот. Відаць, нехта з Менска рэзка ўказаў гарадзенскаму начальству, хто з'яўляецца гаспадаром у хаце і мае права аднаасобна караць і мілаваць у рэспубліцы. Адсюль і несуцішальнае для польскай нацыянальнай меншасці Гарадзеншчыны рашэнне Навагрудскага райсавета. Усё было вырашана яшчэ да галасавання, у ціхіх кабінетах.

***- Каб так казаць, трэба мець на руках факты. Нехта можа і пакрыўдзіцца...***

- Я сцвярджаю, што вялася актыўная апрацоўка дэпутатаў. Той жа Анатоль Ліс выклікаў да сябе некаторых з іх і нагадаў, што яны дзяржаўныя службоўцы, а таму павінны праводзіць у жыццё дзяржаўную палітыку. Мне давялося прысутнічаць на пасяджэнні дэпутацкай камісіі. Склалася ўражанне, што праблему ці не вывучалі наогул, ці спецыяльна праігнаравалі нават той факт, што сабрана амаль тры ста подпісаў бацькоў, якія просяць дазволіць будаўніцтва школы. Перад сесіяй да народных абраннікаў грамадзяне польскай нацыянальнасці звярталіся і пісьмова. Ніхто нават не ўзгадаў пра гэтыя дакументы. Адсюль і вынікі адкрытага галасавання на сесіі - 20 «супраць», 4 «за», 3 «устрымалася».

Абмеркаванне, на маю думку, было фармальным. Напрыклад, загадчыца раённага аддзела народнай адукацыі Ала Буйвал казала, маўляў, чаго вы да нас прычапіліся з гэтай школай. Будуйце сабе ў Воранаве, Шчучыне. Там палякаў многа. Альбо нехта з дэпутатаў на поўным сур'ёзе выказваўся: пабудуем школу, а хто будзе яе ўтрымліваць? Сорамна, хаця б перад сесіяй пагарталі Канстытуцыю і адпаведныя законы, усё ж такі дзяржаўныя асобы.

***- Няўжо дэпутаты так проста адмовіліся ад інвеставання сродкаў у будаўніцтва школы з польскай мовай навучання? Прыгожы праект толькі дадасць Навагрудку прэстыжнасці і прыгажосці...***

- Перамагла пазіцыя цвердалобых палкоўнікаў, якіх непрадказальны лёс раптоўна ўзняў на вяршыню ўлады. Інакш і не растлумачыш. На мясцовым узроўні выканаўны чарговы палітычны заказ. Тут жа галоўнае для «вертыкальшчыкаў» - не адступіцца ад сваіх прынцыпаў. Хто пры гэтым думае аб простых людзях? Пра іх узгадаюць, калі трэба ісці на выбары. Тады пальюцца абяцанкі-цацанкі. Беларускае грамадства ўжо наслухалася гэтага ўдосталь...

Каштарыс школы на 200 вучняў складае 3,5 мільёна даляраў. Гэтыя грошы меліся атрымаць навагрудскія будаўнічыя фірмы. Многія настаўнікі і тэхнічныя работнікі ўладкаваліся б на сталую працу. Прычым, не толькі польскамоўныя педагогі, але і выкладчыкі прадметаў на іншых мовах - беларускай, замежных.

**- Аднак школы з польскай мовай навучання ў Гродне і Ваўкавыску існуюць...**

- Рашэнне адносна будаўніцтва тых школаў прымалася яшчэ ўрадам Вячаслава Кебіча. Упэўнены, што ў наш час ніякіх школаў не было б наогул. Навагрудак таму яскравы прыклад. Мы не збіраемся моўчкі пазіраць, як парушаюцца нашыя правы. Неадкладна звернемся з заявай у абласны Савет дэпутатаў. Спадзяемся, што там знойдуць законныя падставы адмяніць неканстытуцыйнае рашэнне сесіі Навагрудскага раённага савета. Абскардзім рашэнне навагрудскіх дэпутатаў у пракуратуру як неадпавядаючае законам Беларусі. Звернемся са скаргай у Кансультацыйна-назіральную групу АБСЕ ў Менску. Спадар Лукашэнка нядаўна падпісаў у Стамбуле дакумент, які таксама заклікае зважаць на інтарэсы нацыянальных меншасцяў, у тым ліку і ў Беларусі.

Сцяпан Ярашчук

## Абрабавалі сірыйца

**У Гродне абрабаваны студэнт Гарадзенскага медыцынскага універсітэта - грамадзянін Сірыі.**

7 чэрвеня ён звярнуўся ў Ленінскі РАУС абласнога цэнтра і паведаміў, што напярэдадні ў яго кватэру зайшлі трое невядомых, якія прадставіліся электраманцёрамі. Пагражаючы нажом і прадметам, падобным на пісталет, яны забралі камп'ютэр, каляровы тэлевізар, тэлефонны апарат, аўдыпрайгравальнік, цюнер спадарожнікавага тэлебачання і збеглі.

Асобы і месцазнаходжанне зламыснікаў пакуль невядомы. Па факце разбойнага нападу ўзбуджана крымінальная справа.

## Крадуць аўтамабілі

**У Гарадзенскай вобласці расце колькасць крадзяжоў аўтатранспарту. З пачатку года зарэгістравана ўжо 57 такіх крымінальна-каральных дзеянняў. Для параўнання: летась у вобласці адбылося 44 крадзяжа аўтамабіляў.**

Найбольш складаная сітуацыя склалася ў двух буйнейшых гарадах вобласці - Гродне і Лідзе. Супрацоўнікі міліцыі лічаць, што адной з асноўных прычын такой тэндэнцыі з'яўляецца недахоп платных стаянак. Напрыклад, у Гродне налічваецца 21 стаянка, што для горада, дзе зарэгістравана каля 55 тысяч аўтамабіляў, яўна недастаткова. Раскрываць злачынствы ў сферы злачыннага аўтабізнесу складана, але нядаўна міліцыі ўдалося выкрыць групу ў складзе двух жыхароў Гродна і двух расіян, на рахунку якіх па крайняй меры 20 крадзяжоў з гаражоў.

Пакуль ім інкрымінуецца выкраданне двух аўтамабіляў. Хаця аператыўнікі перакананы, што гэтай групай учынена значна больш злачынстваў.

Ася Куніцкая

## Тым, хто любіць жывёлаў

**Сёння праводзіцца пікет супраць жорсткага стаўлення да жывёлаў.**

Запрашаюцца усе, каго хвалюе гэтая праблема і хто можа дапамагчы ў стварэнні грамадскай арганізацыі, якая будзе займацца абаронай жывёлаў, з 16.00 да 18.00 на плошчу Стэфана Баторыя ў сквер насупраць старога будынка бібліятэкі імя Карскага.

Ул. інф.

## Міжнародная канферэнцыя пройдзе ў Слоніме

**З 16 па 18 чэрвеня ў Слоніме пройдзе навуковая канферэнцыя «Магнаты Вялікага княства Літоўскага як мецэнаты культуры».**

Адпаведна словам аўтара ідэі і каардынатара праекту мастацтвазнаўцы Аляксея Хадыкі, горад Слонім быў выбраны для правядзення навуковай канферэнцыі таму, што яго гісторыя цесна звязана з дзяржаўна-грамадскай і культурнай дзейнасцю знаных магнатаў Сапегаў і Агінскіх. Даклады на канферэнцыі будуць чытаць навукоўцы з Беларусі, Польшчы, Расеі, Літвы і Украіны. Аляксей Хадыка абяцае прывезці з менскага музея невядомы партрэт Льва Сапегі, напісаны пры яго жыцці, і які яшчэ нідзе не друкаваўся. Матэрыялы навуковай канферэнцыі будуць выдадзеныя асобным выданнем у двух тамах.

Канферэнцыя распачнецца ў пятніцу, 16 чэрвеня, у 9.30 у малой зале РДК. На суботу запланаваны бясплатны канцэрт менскіх і гарадзенскіх выканаўцаў, а ў нядзелю ўдзельнікі навуковай канферэнцыі наведаюць сядзібы Сапегаў, Радзівілаў і Агінскіх.

Сяргей Ёрш

# За шэсць гадоў апазіцыя так і не здолела прапанаваць альтэрнатыву А.Лукашэнку

**Набліжаецца шостая гадавіна са дня абрання прэзідэнтам Беларусі Аляксандра Лукашэнкі. Гэты час многія называюць часам страчаных магчымасцяў. З такой ацэнкай цяжка пагадзіцца. Калі мець на ўвазе, што многія раней кіруючыя асобы пазбавіліся сваіх хлебных пасадаў - тады так, для іх гэтыя гады страчаныя. Што датычыцца астатніх людзей, то яны не толькі гублялі, але і нешта набывалі.**

Адзін з самых галоўных набыткаў - пераадоленая наіўнасць. Мы цяпер не верым нікому: ні камуністам, ні патрыётам, ні лібералам, ні лукашыстам (калі хто верыць, то гаворка не пра яго, а пра нас). Гэтае ўсеахопнае нявер'е - ненармальнае для здаровага грамадства - тым не менш, робіць нас падобнымі да разумных народаў. Мы навучыліся крытычна ставіцца да аматараў узнесціся за кошт электарата на самы верх улады.

Застаецца вярнуць нам веру. Без сапраўднага лідара, хаця б такога ўзроўню, як Захаранка, Пазьняк, Карпенка, цяжка перацягнуць на свой бок большасць выбаршчыкаў. Але кіраўнікі апазіцыі манерлічаюць: «Мы не можам падманваць электарат». Вядома, хлусіць - сорамна, мы гэта ведаем з дзяцінства. Але... Усе вялікія гістарычныя здзяйсненні, якія вызначаюць характар сучаснай цывілізацыі, не абыходзіліся без хлуснi свядомай альбо ненаўмыснай. Так, Маісей заранёў ведаў, што жыдоўскі народ будзе жыць на рацэ Іардан, але сорак гадоў вадзіў сваё племя па блізкаўсходніх пясках, нібыта ў пошуках лепшага месца. Кромвель і Рабеспьер абяцалі, што без манархаў жыццё стане свабодным, запануюць роўнасць і, нават, братэрства. Джордж Вашынгтон адмяніў рабства ў Амерыцы, хаця расавага міру там няма і дагэтуль. Гарбачоў абяцаў сацыялізм з чалавечым абліччам - і ў выніку вызваліў ад камунізму палову Еўропы і палову Азіі. «Мэта - нішто, рух - гэта ўсё,» - казаў нямецкі сацыяліст Каўцкі.

Беларускія апазіцыянеры так упарта ўхіляюцца ад абяцанняў, што можна падумаць, што яны насамрэч не ў стане зрабіць нічога карыснага: ні падвысіць заробкі, ні перамагчы мафію, ні прыцягнуць інвестыцыі, ні правесці народную прыватызацыю. Калі апазіцыю не стае нават на абяцанні, то сапраўды, хай лепей застаецца А.Лукашэнка.

Эра А.Лукашэнкі пакіне нам не толькі лядовыя палацы. Яна пакіне разуменне таго, што палітычная воля прыносіць вынікі насуперак самым неспрыяльным умовам. Важна толькі накіраваць высілкі ў карыснае рэчышча. У гэтым сэнсе цяжка пагадзіцца з тым, што А.Лукашэнка не зрабіў нічога прыдатнага.

Ён скарыстаў адміністратыўны рэсурс, тыя мажлівасці, якія дае ўлада: устанаўліваць правілы, законы і патрабаваць іх выканання. Жорсткая рука і пільнае вока дзяржавы адчуваюцца ў падатковай і мытнай сферах, у дзейнасці праваахоўных органаў, у галінах адукацыі, навукі, гуманітарных дачыненняў з замежнымі партнёрамі. Крытыкі сцявярджаюць, што гэта дзяржаўны патэрналізм (апека) і празмерны кантроль за грамадскай супольнасцю. Але нашыя грамадзяне лічаць, што ў сучасных умовах выбар адзін. Альбо апека і нагляд, альбо анархія і «беспредел». Занадта доўга мы жылі несвабодна і страцілі здольнасць самаарганізоўвацца без дапамогі дзяржавы.

А.Лукашэнка паставіў пад кантроль бюракратычны апарат, які да 1994 года жыў цалкам самастойным, незалежным ад народа жыццём. Ён вельмі ўдала сфармуляваў задачу чыноўнікаў - служыць. Народ выбірае ўладу, а чыноўнікі служаць народу і, ягоным абраннікам - А.Лукашэнка крыху змяніў гэтую схему на карысць сабе, але не чыноўнікаў. Народ яму гэта даруе.

Бяда А.Лукашэнкі ў тым, што ён не мае стварыльнай праграмы рэформаў на перыяд пераходу ад камунізму да рынку. Зрэшты, электарат у 1994 годзе і не патрабаваў ад яго нічога такога, а толькі «парадку». На дадзены момант усё, чаго можна было дамагчыся пры дапамозе навядзення парадку, дасягнута. Таму ў адміністрацыі А.Лукашэнкі зараз ліхаманкава шукаюць адказу на пытанне: «А што рабіць, калі парадак наведзены?». Бо парадак дзеля парадку больш не задавальняе электарат, якому абрыдла інфляцыя, рост цэнаў, нізкія заробкі, дурныя законы.

Выпрацаваць праграму рэформаў зусім не цяжка, паколькі па гэтым шляху ўжо прайшлі і ўдала, дзесяткі краінаў. Можна выбіраць любы досвед - ад партугальскага да эстонскага, тым больш, што дзяржава кантралюе сітуацыю: куды паверне, туды і пойдзем. Некалі Фідэлю Кастра лацінаамерыканскія прэзідэнты раілі: «Не бойся, галоўнае - пачаць». На жаль, каманда А.Лукашэнкі баіцца пачынаць, бо ведае, што рэформы прывядуць да страты кантролю над фінансавымі і матэрыяльнымі рэсурсамі, якімі цяпер яны распараджаюцца, як сваімі ўласнымі. Каманда магла б перакваліфікавацца, паводле расейскага ўзору, у алігархаў, але гэтага не хоча сам А.Лукашэнка.

Падобна на тое, што А.Лукашэнка так і не наважыцца на рэформу. Яму і без яе някепска. Ва ўмовах стагнацыі, застою і нізкага ўзроўню жыцця ўсё большую ўвагу электарата будуць прыцягваць канструктыўвісцкія прапановы і заклікі з боку апазіцыі. Тут мы ізноў вяртаемся да таго, пра што казалі раней: апазіцыя саромеецца і далікатнічае. Так яна дачакаецца, што электарат падмане наступны авантурыст, у параўнанні з якім А.Лукашэнка падасца анёлам.

У ідэале было б някепска сумясціць парадак і А.Лукашэнку з рэформамі і апазіцыяй. Мабыць, гэта не рэальна, бо электарат пакуль да такога не дадумаўся, а самі варагуючыя бакі не адчуваюць патрэбы адно ў другім. Галоўнае пытанне, такім чынам, заключаецца ў тым, ці здолее апазіцыя пасля прыходу да ўлады захаваць парадак у дзяржаве і не дапусціць падчас рэформаў масавай карупцыі, бандытызму, прыватызацыі дзяржаўнай маёмасці вузкім колам асобаў, набліжаных да ўлады.

**Сяргей Самасей**

**Першага чэрвеня 2000 года Сустаршыні Аргкамітэта Усебеларускага З'езда прынялі рашэнне вынесці на ўсенароднае абмеркаванне праект Акта Незалежнасці Беларусі і звярнуцца да сродкаў масавай інфармацыі з просьбай апублікаваць гэты дакумент. Дзеля яго ўдасканалення зацікаўленыя асобы і арганізацыі маюць магчымасць дасылаць на адрас Сакратарыята свае прапановы наконт зменаў і дапаўненняў. Усе яны будуць разгледжаныя і ўлічаныя пры канчатковай падрыхтоўцы Акта Незалежнасці Беларусі.**

**Кантактны тэлефон Сакратарыята Усебеларускага З'езда: (017) 2236529**

**Адрас для карэспандэнцыі: 220065, Менск, а/с 297.**

# Акт незалежнасці Беларусі

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда, паўнамоцныя прадстаўнікі ўсіх рэгіёнаў Рэспублікі Беларусь,

- усведамляючы адказнасць за будучыню Беларусі;

- напамінаючы, што Беларусь з'яўляецца дзяржавай-заснавальніцай Арганізацыі Аб'яднаных Нацыяў;

- грунтуючыся на прынцыпах і нормах міжнароднага і нацыянальнага права,

Заяўляем:

Беларускі народ мае тысячагадовую гісторыю сваёй дзяржаўнасці: ад Полацкага княства, Вялікага княства Літоўскага, Беларускай Народнай Рэспублікі да сучаснай Рэспублікі Беларусь. Прынятая Вярхоўным Саветам 27 ліпеня 1990 года Дэкларацыя аб дзяржаўным суверэнітэце сцвярджае яго дзеля галоўнай мэты - свабоднага развіцця і дабрабыту, годнага жыцця кожнага грамадзяніна. Яна абвяшчае незалежнасць краіны ў вонкавых дачыненнях, вяршэнства, самастойнасць і паўнату дзяржаўнай улады, дзеючай на падставе правамоцных законаў. Любыя гвалтоўныя дзеянні супраць нацыянальнай дзяржаўнасці павінны пераследавацца як найвялікшае злачынства.

Ідэі Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце былі замацаваныя ў Канстытуцыі, прынятай 15 сакавіка 1994 года легітымна абраным парламентам. Паводле яе Беларусь увайшла ў свет як нейтральная, мірная і без'ядзерная дзяржава. Незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў ды нашчадкаў. Суверэнітэт краіны не можа быць абмежаваны праз рашэнні вышэйшых дзяржаўных асобаў ды органаў і нават праз рэферэндум.

Сёння незалежнасць Рэспублікі Беларусь пастаўлена пад пагрозу. Рэальнай небяспекай ёй стала дамова аб стварэнні адзінай саюзнай дзяржавы з Расеяй, падпісаная 8 снежня 1999 года прадстаўнікамі ўладаў, чыя легітымнасць ставіцца пад сумненне ў большасці краін свету. Не бывае двух суверэнітэтаў у адной дзяржаве.

Мы - за добрыя, раўнапраўныя і ўзаемавыгадныя адносіны з усімі краінамі свету, і асабліва з суседзямі: Расеяй, Украінай, Польшчай, Літвой, Латвіяй. Але мы не жадаем станавіцца рэгіёнам ніякай дзяржавы. Суверэнітэт не можа перадавацца іншай дзяржаве ці новастворанаму дзяржаўнаму ўтварэнню.

Незалежнасць - гэта натуральнае права ўсяго народа, кожнага грамадзяніна.

Мы, дэлегаты Усебеларускага З'езда,

Сведчым

Богам дадзенае нашаму народу права мець сваю незалежную дзяржаву;

Абвяшчаем

дзяржаўны суверэнітэт неад'емнай каштоўнасцю беларускага народа;

Прызнаём

не маючымі законнай сілы любыя пагадненні і рашэнні, скіраваныя на скасаванне альбо абмежаванне суверэнітэту Беларусі;

Заклікаем

міжнародныя арганізацыі, урады дэмакратычных дзяржаваў, сусветную грамадскасць забяспечыць гарантыі суверэнітэту Рэспублікі Беларусь.

Заклікаем суайчыннікаў згуртавацца вакол ідэі Акта Незалежнасці.

Жыве Беларусь!

Прынята Усебеларускім З'ездам
г.Менск

**Усебеларускі з'езд, ініцыіраваны вядомымі дзеячамі навукі і культуры, перанесены з 17 чэрвеня на 29 ліпеня. Такое рашэнне прыняў аргкамітэт з'езда пасля чатырохгадзінных дэбатаў 10 чэрвеня ў будынку Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Менску.**

**Акрамя таго, назваць мерапрыемства вырашана так: Усебеларускі з'езд за незалежнасць. Ён будзе прымеркаваны да 10-й гадавіны прыняцця Дэкларацыі аб дзяржаўным суверэнітэце. Перанос стаў вынікам кампрамісу паміж ініцыятарамі і лідэрамі апазіцыйных палітычных партый, якія настойвалі на правядзенні з'езда ўвосень і, на думку першых, сабатавалі кампанію па вылучэнню дэлегатаў. За рашэнне аб пераносе прагаласавалі 31 член аргкамітэта, супраць - 4, яшчэ 9 чалавек устрымаліся.**

**Сярод тых, хто прагаласаваў супраць, - лідэр БНФ «Адраджэньне» Вінцук Вячорка. Да гэтага часу на з'езд вылучаны 243 дэлегаты.**

# Новы польскі ўрад будзе праводзіць старую лінію

**«Стварэнне часовага ўрада ў Польшчы не зменіць палітыкі краіны ў дачыненні да Беларусі і падтрымкі беларускай апазіцыі з польскага боку».**

Пра гэта заявіў старшыня бюро замежных спраў партыі «Акцыя выбарчай салідарнасці» Марэк Катлярскі на сустрэчы з прадстаўніком Аб'яднанай грамадзянскай партыі Янам Хлябовічам. Як паведаміў прэс-цэнтр грамадскай ініцыятывы «Хартыя'97», сустрэча адбылася ў Варшаве 7 чэрвеня. На ёй абмяркоўваліся пытанні супрацоўніцтва новага складу польскага ўрада з афіцыйным Менскам і беларускай апазіцыяй.

Марэк Катлярскі выказаў перакананне, што «польска-беларускае супрацоўніцтва ў межах падтрымкі палітычнай апазіцыі будзе мець прыярытэтныя пазіцыі замежнай палітыкі» ўрада Польшчы. «Стаўленне новага ўрада да афіцыйнага Мінска не будуць перагледжаны. Мы праяўляем вялікую ўвагу да праблемы парушэння правоў чалавека ў Беларусі», - падкрэсліў шэф бюро замежных спраў «Акцыі выбарчай салідарнасці».

**Наталля Кулагіна**

# Заканчваецца падпіска на другое паўгоддзе 2000 года

Апошнім часам ціск вертыкалі на ПАГОНЮ ўзмацніўся. Улада проста шалее ад неабходнасці суіснавання з намі. Таму час ад часу і падкідваюць розныя дробныя паскудствы. То газету своечасова ў кіёск не падвязуць, то «забудуцца» яе выкласці на прылавак... Лепшым адказам на гэта можа стаць наша салідарнасць.

Згуртуймася вакол ПАГОНІ!
Калі мы будзем разам - нас не адолець!

Кошт падпіскі:
на квартал - 1200 рублёў;
на паўгода - 2400 рублёў;
Індэкс ведамаснай падпіскі-63348
Кошт ведамаснай падпіскі:
на квартал - 3600 рублёў;
на паўгода - 7200 рублёў.

Індэкс індывідуальнай падпіскі 63124

Ф. РД-1 Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь

АБАНЕМЕНТ на газету / ~~часопіс~~ 63124
індэкс выдання
"ПАГОНЯ"
(назва выдання) Колькасць камплектаў 1

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча, ініцыялы)

ДАСТАВАЧНАЯ КАРТАЧКА
на газету / ~~часопіс~~ 63124
індэкс выдання
"ПАГОНЯ"
(назва выдання)

Кошт падпіскі 1тыс. 200руб. Колькасць камплектаў 1
перaадрасоўкі ___ руб. ___ кап.

На 2000 год па месяцах:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | × | × | × | | | |

Куды
(паштовы індэкс) (адрас)
Каму
(прозвішча, ініцыялы)

# Новыя тэхналогіі варажбітак

**Калі на вакзале да вас падыйдзе цывільнага выгляду жанчына і прапануе паслугі «Цэнтра нетрадыцыйнай медыцыны» - майце на ўвазе, што гэта, хутчэй за ўсё, новы прыёмчык цыганак-варажбітак.**

Асабіста са мной такое здаралася падчас апошняга візіту ў сталіцу. Да гэтай пары ўдавалася паспяхова ўнікаць нават размоваў з цыганкамі. Бо ведаю - варта ім справакаваць вас на кантакт - і ўсё, бывайце грошыкі-бранзалецікі.

Пару гадоў таму цыганкі былі і ў Гродне, але потым зніклі. Цяпер іх улюбёныя месцы - Менск і Баранавічы. Традыцыйная схема заманьвання кліента - спачатку напужаць разнастайнымі звышнатуральнымі жахамі пра нагавор і сурокі, што нібыта насланыя на вас вашым заклятым ворагам, а потым паабяцаць цудоўным чынам выратаваць вас ад гэтай бяды. Звычайна пад нагавор «дай ручку пагляджу - усю праўду раскажу» варожка пачынае агульнымі словамі казаць пра чырвовага караля, дальнюю дарогу і злую пікавую даму. Пры гэтым цыганка стараецца глядзець проста ў вочы. Некаторыя з іх сапраўды валодаюць прыёмамі гіпнозу і праз непасрэдны кантакт вачэй і рук прымушаюць чалавека верыць кожнаму слову і аддаваць апошні «скарб». Калі ж, аднак, у цыганкі не атрымліваецца злавіць вас у свае сеткі, яна скарыстоўвае наступны надзейны сродак - стараецца напалохаць. Сярод «страшных» перспектываў жанчынам даводзіцца: «а не прынясеш (не аддасі) мне грошы - усе валасы і зубы павыпадаюць, муж (жаніх) здрадзіць». Мужчынам жа малююцца сумныя перспектывы наконт грошай і патэнцыі.

Так было яшчэ год-два таму. Але сёння, відавочна, прывакзальныя варажбіткі змянілі тактыку, так бы мовіць, «мадэрнізаваліся». Цяпер яны прадстаўляюцца супрацоўніцамі розных цэнтраў нетрадыцыйнай медыцыны.

Жанчына, што падышла да мяне на сталічным цэнтральным аўтавакзале, была апранутая ў звычайны кітайска-турэцкі шырспажыў, у які апранаюцца і менчукі, і правінцыялы. Выдучала яе хіба што смуглявая скура і вялізныя цёмныя вочы. Ухапіўшыся за маю руку, яна пацягнула зайсці за кіёск і там парамзмаўляць. Потым дастала кавалак белай швачнай ніткі і прапанавала правесці сеанс «лячэння» ізноўтакі ад нагавораў і сурокаў ворагаў. На ўсе мае спробы адмовіцца жанчына даводзіла, што дапаможа дарма, што грошай ніякіх ёй не трэба. Тут аднекуль з'явілася яшчэ адна маладая жанчына паўднёвага тыпу, таксама па-тутэйшаму апранутая, якая з гарачымі падзякамі і просьбамі ізноў «падлячыць» яе кінулася да маёй нетрадыцыйнай доктаркі. Маладзіца горача распавядала, што прыехала на другі сеанс ажно з Віцебску, так ёй спадабалася лячэнне.


Асцерагайцеся цыганскіх «дактароў»

Паколькі да аўтобуса заставалася гадзіна, я вырашыла паглядзець, што будзе далей. А далей падзеі развіваліся з ліхаманкавай хуткасцю. «Доктарка» дала мне «свянцоную» нітачку і загадала задумаць жаданне, уявіць ворага і завязаць два вузельчыкі. Потым тую нітачку давялося скатаць у камячок і зноў выпраміць. Увесь час варажбітка шаптала малітвы, хрысціла руку. Якое ж было маё здзіўленне, калі на выпрамленай нітачцы не аказалася двух завязаных мною ўласнаручна вузельчыкаў! Маладая «пацыентка» разам з яшчэ адной кабетай, што невядома адкуль узялася, горача зашапталі, што гэта - на спаўненне ўсіх мараў і ўдачу.

І тут цыганка перайшла да кульмінацыі сеансу нетрадыцыйнага лячэння. Тую чароўную нітачку належала схаваць у кашалёк (увага: набліжаемся да грошай!), а дома кінуць у шклянку з вадою, у якой нібыта ўбачыш твар ворага, які ўсё жыццё чыніць табе перашкоды. Тут жа, не даючы апамятавацца ад фокусу з вузельчыкамі, цыганка просіць дастаць невялікую купюру з тым, каб прываражыць да вас грошы. Потым са словамі: «Я бачу, што гэта не ўсе твае грошы», яна загадвае дастаць усё, што ёсць і пакласці ў раскрытую далонь. І тут ужо, дзякуй Богу, розум прыйшоў мне на дапамогу. Як аказалася, я - у коле «доктаркі», яе ашчасліўленых пацыентаў і аднаногага бамжа, што заняў чаргу на сеанс. Я «прабілася цераз абарону праціўніка» і адышла бліжэй да цывільнага люду. «Доктарка» ж са словамі «Во, зараза!» сабрала світу (як вы разумееце, «пацыенткі» працуюць у долі) і пайшла шукаць новую ахвяру. Праз пяць хвілінаў яна распавядала пра цэнтр нетрадыцыйнага лячэння дзядзьку з чамаданчыкам, а да яе бегла тая ж удзячная «маладзіца з Віцебску».

**Алена Сіневіч**

P.S.: Новыя рэаліі запатрабавалі мадэрнізацыі апрацоўкі «чайнікаў» на вакзалах. Цяпер варажбіткі працуюць зладжанымі брыгадамі, у якія могуць уваходзіць і мясцовыя цёткі. Яны прадстаўляюць тэатралізаванае дзейства з усё той жа мэтай - выманіць у падарожных і камандзіровачных усё да капейкі. Лепшы 'спосаб захаваць свае грошыкі - не верыць вакзальным «дактарам» і варажбіткам і ўнікаць усялякіх кантактаў. Хутка «цэнтр нетрадыцыйнага лячэння» можа з'явіцца і на гарадзенскіх вакзалах.

# Не хочаш выхоўваць дзяцей, плаці штраф!

**Менавіта так адрэагавалі дэпутаты Гарадзенскага гарадскога Савета на павелічэнне колькасці правапарушэнняў з боку непаўналетніх. Зацверджана палажэнне аб спецыяльным фондзе «Падлетак».**

Гэта своеасаблівая індульгенцыя за хібы ў выхаванні дачок і сыноў. Летась толькі ў Ленінскім раёне Гродна было спагнана штрафаў на мільён рублёў у новым вылічэнні. Дэпутаты палічылі за неабходнае, каб адпаведныя арганізацыі таксама абмежавалі тэрмін правядзення дыскатэкаў у Палацах культуры, іншых установах, якія не маюць дамоваў з органамі ўнутраных справаў на ахову правапарадку. У Гродне працуюць дзевяць дыскатэкаў і чатыры начныя клубы.

Кожны шосты гарадзенскі падлетак учыніў тое ці іншае правапарушэнне. Найбольшую колькасць складаюць кватэрныя і аўтамабільныя злодзеі. Усяго ў вобласці з 313,7 тысячы маладых людзей 2214 (7 працэнтаў) стаяць на ўліку ў інспекцыях па справах непаўналетніх.

**Антон Лабовіч**

# Памежнікі не прапусцілі «еўрапейцаў» назад

**Як паведамілі ў прэс-службе Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, днямі гарадзенскія памежнікі пры спробе нелегальнага пераходу польска-беларускай мяжы, з Польшчы ў Беларусь, затрымалі двух жыхароў Оршы.**

У працэсе разбору высветлілася, што некаторы час таму два маладыя чалавекі, не маючы пры сабе неабходных дакументаў, незаконна прыбылі ў Польшчу, перайшоўшы мяжу якраз на ўчастку Гарадзенскага пагранатрада. Там яны наняліся на працу падсобнымі рабочымі на будоўлю да жыхара невялікага мястэчка Сухачоў. Гэты грамадзянін апынуўся паліцэйскім, аднак яго не зацікавіла, што за людзі на яго працуюць. Пасля гэтага беларускія грамадзяне пабывалі яшчэ ў некалькіх польскіх гарадах. Удзень яны бадзяліся па вуліцах, а ноччу забіраліся ў падвалы дамоў і кралі там прадукты харчавання. У Познані маладыя людзі чатыры разы рабавалі офісы розных фірм, а таксама адзін з мясцовых рэстаранаў. Здабычай злачынцаў сталі сотавыя тэлефоны, відэамагнітафоны, тэлефаксы, пейджэры, кампакт-дыскі.

Пасля вяртання ў Беларусь, пры спробе пераадолець інжынерныя збудаванні, жыхары Оршы былі затрыманы. З сабой у іх таксама аказаліся па адному спартыўнаму пісталету і карта Еўропы.

**Вячаслаў Будкевіч**

# Рыцарскія гульні ў Наваградку

**У Навагрудку завяршаецца падрыхтоўка да фестывалю сярэдневяковай культуры «Навагрудак-2000», які пройдзе 24-25 чэрвеня.**

Як паведамілі у аргкамітэце фестывалю, у ім возьмуць удзел больш чым 500 чалавек, сярод якіх - каля 300 прадстаўнікоў ваенна-гістарычных клубаў Беларусі, Латвіі, Літвы, Польшчы, Эстоніі і Расіі. У рамках фестывалю адбудуцца сярэдневяковыя атракцыёны, рыцарскія гульні, спаборніцтвы, пастановачныя баі, конныя турніры і групавыя схваткі, выступленні музычных гуртоў і выканаўцаў, тэатральныя мініяцюры, а таксама вялікае шоу з выкарыстаннем піратэхнічных сродкаў. Апагеем свята стануць рыцарскі парад і інсцэніроўка бітвы 1314 года, у якой воіны Вялікага княства Літоўскага абаранялі тагачасную сталіцу ад нашэсця крыжакоў.

Найбольшую колькасць рыцараў-байцоў прадставіць на фестываль 21 беларускае ваенна-гістарычнае маладзёжнае аб'яднанне з Ліды, Мінска, Магілёва, Брэста, Пінска, Гродна, Полацка, Бабруйска, Баранавічаў, Гомеля, Рэчыцы і Наваполацка. Удзел у свяце таксама возьме тэатр «Вольная сцэна» (Мінск), які пакажа фрагменты сваіх спектакляў на гістарычную тэму. Падрыхтоўка да фестывалю вядзецца на высокім арганізацыйным узроўні. Напрыклад, у канцы красавіка на базе клуба «Княжы Гуф» у Мінску аргкамітэт правёў для беларускіх удзельнікаў фестывалю семінар па пытаннях пашыву гістарычных касцюмаў і вырабу рыцарскіх даспехаў.

Чакаецца шырокае асвятленне гэтага свята сродкамі масавай інфармацыі, у тым ліку электронныміі. У прыватнасці, кіраўніцтва Нацыянальнай дзяржтэлерадыёкампаніі задаволіла просьбу аргкамітэта аб размяшчэнні з 10 па 23 чэрвеня анонса аб фестывалі на каналах БТ, ОРТ і РТР, а таксама аб тэлевізійных здымках і паказе тэлеверсіі «Навагрудка-2000» па беларускаму тэлебачанню.

**Марат Гаравы**

# Як Юрый хацеў стаць Юрасём

**Днямі ў рэдакцыю трапіў дакумент з якога вынікае, што жаданне людзей быць беларусамі ў Беларускай Дзяржаве вынішчаецца татальна. Напрыканцы гэтай заявы аўтар у лепшых традыцыях талерантнасці сціпла пытаецца ці можна чым-небудзь яму дапамагчы. Нягледзячы на тое, што хутка будзе два гады, як гэтае пытанне прагучала, відаць, не варта акцэнтаваць увагу на тым, што Юрый так і не стаў Юрасём. Зрэшты, чытайце самі...**

Начальніку аддзела пашпартна-візавай службы адміністрацыі
Кастрычніцкага раёна
Юрыя Аляксандравіча
Сцепаненкі, які пражывае па адрасу: г.Гродна, вуліца Парахавая..

## Заява

Прашу замяніць мне агульнаграмадзянскі пашпарт, выдадзены ўзамен СССРаўскага 28.08.1998 года, бо ў беларускім, па віне служачай АВІРа была зроблена памылка.

Рыхтуючыся да абмену пашпарта, я пацікавіўся, якім чынам будзе гучаць беларускі варыянт імя «Юрий». «Слоўнік асабовых імён» М.Рудніка, а таксама «Беларуска-рускі слоўнік» С.Грабчыкава (1991 г.) падаюць імя Юрась. Гэта больш беларускі варыянт, чым Юрый, таксама як Кастусь, Алесь, Пятрусь, Васіль, Анатоль, Рыгор і г.д. Можна, канешне, пісаць і Васілій, Анатолій, Юрый, але гэта не беларускія варыянты, а скажоныя рускія. А я - беларус, тут нарадзіўся і вырас, Радзіму сваю люблю і таму хачу, каб у імені маім прысутнічала беларуская нота.

Пры запаўненні заявы (форма 1) у домаўпраўленні я яшчэ раз пацікавіўся, гэтым разам у пашпартысткі, наколькі правамерныя мае прэтэнзіі адносна беларускага варыянту імя? Яна дастала свой даведнік, паглядзела, сказала, што магу напісаць і так. І ў заяве я напісаў «Юрась». Аднак пры атрыманні пашпарта я ўбачыў усё-ткі «Юрый». У маёй асабістай заяве пры гэтым было сцерта тое, што пісаў я, пад чым стаіць мой асабісты подпіс, а зверху выпраўлены чужой рукою без майго дазволу. Можа, для гэтай работніцы АВІРа абраны варыянт і прыемней, але ж імя - маё і пашпарт - мой. А прозвішча сваё яна мне назваць адмовілася. Я яе тройчы прасіў прадставіцца - ніяк. Пры гэтым яшчэ і грубіла, апелявала да наведвальнікаў, каб перавесці канфлікт на тэму затрымкі чаргі. Было гэта 28 жніўня 1998 года ў 15.50 ля акенца N4.

А зараз дзве прапановы адносна паляпшэння работы пашпартна-візавай службы Кастрычніцкага раёна.

1. Няблага было б работніцам на сталах мець даведачную літаратуру не СССРаўскіх часінаў, прызначаную для механізатараў, сантэхнікаў, вучняў ГПТВ, а спецыяльную літаратуру для кадравых органаў, АВІРаў і д.п., і (што важна) выдадзеную пасля 1991 года.

2. Літаратуры гэтай можа не хапаць, але калі для работы з людзьмі не хапае ўзроўня культуры, калі не можаш зразумець наведвальніка, не можаш запэўніць яго, не можаш не даводзіць справу да канфлікту, не хочаш (не можаш, баішся) прадставіцца - гэта ўжо прафесійная непрыдатнасць. Але ж наколькі прыемней было б мець справу з культурным, спагадлівым і добрым чалавекам. Няўжо нельга нешта для гэтага зрабіць?

**Юрась Сцепаненка**

# Дамова аб спыненні ўціску

**5 чэрвеня ў Гродне адбыліся сустрэчы намесніка старшыні Беларускай Нацыянальнай моладзевай Рады Аляксея Мацэвілы і намесніка старшыні Саюза моладзевых грамадскіх аб'яднанняў Віталя Нікановіча з намеснікам старшыні Гарадзенскага гарвыканкама Яўгенам Жабруном, начальнікам Упраўлення адукацыі Гарадзенскага аблвыканкама Уладзімірам Гаўронам і старшынём Камітэта па справах моладзі Гарадзенскага аблвыканкама Аляксандрам Дзікевічам.**

Асноўная тэма сустрэчаў - спыненне ўціску на моладзевыя аб'яднанні Гарадзеншчыны ў галіне арганізацыі і правядзення адукацыйных мерапрыемстваў.

Як адзначалі прадстаўнікі дзяржструктураў, асноўная праблемай іх узаемаадносінаў з моладзевымі аб'яднаннямі з'яўляецца неінфармаванне пра дзейнасць моладзевых ініцыятываў і адараванасць моладзевых аб'яднанняў ад удзелу ў рэалізацыі дзяржаўных праграмаў «Моладзь Беларусі» і «Дзеці Беларусі».

Вынікам сустрэчы была дамова аб дазволе з боку гарвыканкама на правядзенне адукацыйных мерапрыемстваў пры наяўнасці пісьмовай згоды абласных структураў у галіне адукацыі і моладзевай работы. А Упраўленне адукацыі і Камітэт па справах моладзі Гарадзенскага аблвыканкама прапанавалі Беларускай Нацыянальнай моладзевай Радзе і «Радзе-23» скласці план дзеянняў у галіне адукацыі і моладзевай работы на 2000/2001 навучальны год, які атрымае «зялёнае святло» з боку мясцовых уладаў.

**"Kroniki gramadzkaga zhyc'cia"**







# «Цэнзарскія нажніцы» бяруць за жывое

**Другая кніга Сяргея Астраўца «Цэнзарскія нажніцы», што выдадзена ў Беластоку, аб'яднала прозу аўтара за апошнія 15 гадоў. Ранейшая ягоная кніжка «Янычары» выйшла ў 1993 годзе ў Менску.**

Такі вялікі храналагічны адрэзак спрычынены тым, што кніга была здадзена ў выдавецтва «Мастацкая літаратура» яшчэ ў 1994 годзе, але так і не была надрукаваная. За наступны час аўтар напісаў новую кнігу «Хома новус», якая і апынулася пад адной вокладкай з «Цэнзарскімі нажніцамі». Да гэтага Сяргей дадаў яшчэ 21 «савецкае апавяданне» і міні-раман «Deus ex machina». Атрымалася на дзіва тоўстая па сённяшніх часах кніга пад глянцавай вокладкай і цудоўным афармленнем з гравюраў Францыска Скарыны, фрагментаў Яна ван Эйка ды іншых.




Аўтар каля 20-ці гадоў працуе журналістам і лічыць, што праца ў газетах наколькі дапамагае пісьменніцтву, настолькі ж і перашкаджае: «Чым больш пішаш, тым больш і лепш атрымоўваецца - і ў газету, і для сябе. Мяне асабіста вельмі падштурхоўваюць пісаць падарожжы - неабходны атрыбут журналісцкай працы». Сам аўтар называе свае апавяданні «газетнай прозай». Першы твор, які адкрывае кнігу, «сага пра зубрынае паляванне, пырскі шампанскага, а таксама пра тое, як зашылі СЕРП з МОЛАТАМ «ЗУБРЫНАЕ ПАЛЯВАННЕ» мае шмат агульнага з мастацкім летапісам. Гэта - своеасаблівая міні-гісторыя нашага краю ў 90-х гадах з фантасмагарычным фіналам. У «псеўданімах» Барбарусія, Крамлёўск, Пушкевіч, Дубкоў, Лыч лёгка пазнаюцца рэальныя геаграфічныя назвы і прозвішчы нашых палітыкаў. Гумарыстычны эфект дае «стэнаграфія» прамовы кніжнага Прэзідэнта на трасянцы: «У нас, ізвініце, не долары валюта, а самі знаеце што. А ваабшчэ, я бы вам пасаветаваў пабольшэ работаць, ні лініца, ні міцінгавать. Я - празідэнт, у міне трыццаць сотак картошкі... Прабаваў развісці ва дварэ рыбу штота ні палучаіцца. Дохніт. Воздуху ні хватае». Новыя апавяданні 1996-1999 гадоў змешчаныя ў нізку «Адбіткі пальцаў».

Кніга «made in BSSR», ці «савецкія апавяданні» - вельмі разнастайная па змесце і жанрах: тут замалёўкі, эсэ, прытчы пра вайкалакаў, дакументалістыка. Чытач пазнае гарадзенскія вуліцы і завулкі, Фарны касцёл, помнік Элізе Ажэшка, галерэю «У Майстра», былую кавярню «Батлейка», сфінксаў на замкавай браме.

«Цэнзарскія нажніцы» - прыклад новай беларускай літаратуры з яе сучаснымі прыкметамі: размытасцю і ўзаемапранікненнем жанраў, бессюжэтнасцю. Кароткія сказы, невялікі аб'ём апавяданняў (асабліва апошніх), суб'ектывізм бесперапыннай «плыні свядомасці». Героі, як у кінахроніцы, з'яўляюцца перад чытачом на кароткі час і знікаюць у часе, прасторы і гарадскім тлуме. Галоўны герой кнігі - сённяшні дзень і яго аналогіі ў «саўковай гісторыі».

Аўтар дае невясёлы прагноз на будучыню: «Быць ім, беларусам, заўжды ў сваёй хаце партызанамі. Партызанамі, якія адседжваюцца ў лесе. Пакуль ня скончыцца самагонка з салам. А яны ня скончацца ніколі...»

Цікава, што пасля выдання кніжкі аўтар не зрабіў сабе творчы адпачынак, а працягвае пісаць. Вось і сёння, 15 чэрвеня, а 19-й гадзіне ў Гарадзенскім Доме культуры на сустрэчы з чытачамі ў клубе «Паходня» Сяргей Астравец прачытае свае новыя апавяданні, напісаныя апошнім часам.

**Алена Сіневіч**

# Матчыны песні спяваў па-беларуску

**Міхасю Забэйдзе-Суміцкаму споўнілася сто гадоў. Ён пахаваны ў Празе на Альшанскіх могілках. Да Гарадзеншчыны мае непасрэднае дачыненне, бо «нарадзіўся каля Падароску, што на Ваўкавышчыне», 1(14) чэрвеня 1900 года. З бацькамі быў у бежанстве. Дадому не вярнуўся, перабраўся ў далёкі Харбін (Манчжурыя), спяваў у оперным тэатры. Удасканальваў талент у Мілане, зведаў сцэну слыннага Ла-Скала.**

Перад другой сусветнай вайной здзейсніў канцэртную паездку па Заходняй Беларусі. Другі раз гастраляваў тут напачатку 60-х. Аб'ехаў Гродна, Слонім, Ліду, Ваўкавыск. Менавіта ў тыя дні пазнаёміўся з вядомым пісьменнікам Аляксеем Карпюком. Між імі завязалася перапіска. Лісты знанага спевака да мужа захоўвае жонка Аляксея Нічыпаравіча Інга Анатольеўна. Лісты пазначаны 28 лістапада 1963, 8 ліпеня 1964, 30 снежня 1964 гадоў. Як рэліквія, захоўваецца магнітная стужка з запісам канцэрта спадара Міхася.

Забэйда-Суміцкі (дзявочае прозвішча яго маці Аляксандры) дзякуе пісьменніку, што той не цураецца беларускай мовы. Пра аповесць «Данута» піша: «...усё тое, аб чым Вы пішаце, мне вельмі блізка. І думак, і пачуццяў супольных там знайшоў столькі, што аж здзівіўся. Да Вашай кніжкі яшчэ не раз вярнуся». Новы твор Аляксея Карпюка адзначае так: «Кніжку «На лясных сцежках» (першапачатковая назва рамана-бывальшчыны «Пушчанская адысея» - А.Л.) прачытаў з вялікім зацікаўленнем. Нават забыўся, што маю лекцыю спеву». І далей паведамляе пра сябе: «І я пакуль што спяваю: «Бросаю в землю зёрнышко маковое»... Хоць кветкі, мусіць, і не дачакаюся, але веру, што яно так і будзе, інакш не мог бы спяваць». Усе лісты маюць праскі адрас.

Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны разам са сталічным кінатэатрам «Змена» ладзіць кінавечарыну, прысвечаную 100-гадоваму юбілею знанага беларускага спевака Міхася Забэйды-Суміцкага. У праграме: дакументальны фільм студыі «Летапіс» - «Вяртанне Міхася Забэйды» і сустрэча са стваральнікамі стужкі: Іванам Цішчанкам і Рычардам Ясінскім. Запрашаем у кінатэатр «Змена» 21 чэрвеня а 18-й гадзіне. Уваход вольны.

Максім Танк неадноечы прасіў спевака вярнуцца на Беларусь. Яму абяцалі дзвюхпакаёвую кватэру ў Менску. Міхась аднойчы нават сакаваў чамаданы. Але ён вельмі насцярожана ставіўся да дыктатарскіх камуністычных рэжымаў. У час першых эксперыментаў ленінскіх паслядоўнікаў, яшчэ ў юнацтве ледзьве паспеў з'ехаць у Харбін. На Беларусь не прыехаў. Але заўсёды марыў вярнуцца да свайго народа. Памёр 12 снежня 1982 года ў Празе. Архіў песняра-патрыёта перададзены Нацыянальнай Акадэміі Навук у Менску.

**Антон Лабовіч**

# Алімпіяда польскай мовы

**Напачатку красавіка ў Варшаве адбыліся цэнтральныя спаборніцтвы Алімпіяды польскай мовы і літаратуры. Урачыстае ж яе заканчэнне прайшло зусім нядаўна, другога чэрвеня, у Люстэркавай зале палаца Сташыца ў Варшаве.**

Неабходна адзначыць, што чацвёра пераможцаў Беларускай рэспубліканскай алімпіяды, якія выязджалі ў Варшаву - Артур Жукоўскі (Баранавічы), Марыя Луцэвіч (Гродна), Эльвіра Пянькоўска-Антоньчык (м. Бялынічы, Магілёўская вобласць) і Ганна Сакалоўская (Слонім) - наведалі тыднёвыя падрыхтоўчыя курсы ў Беластоку. Гэта ажыццявілася дзякуючы падтрымцы Падляскага аддзелу таварыства «Wspolnota Polska». Да цэнтральнага этапу трэба было падрыхтаваць вусную тэму па польскай мове і літаратуры. Ужо на месяцы ўсе ўдзельнікі, а было іх каля 250, пісалі сачыненні на прапанаваныя тэмы.

Аднак, алімпійцы не толькі спаборнічалі. Яны мелі проста выключна цікавыя сустрэчы з вядомым сучасным польскім паэтам ксёндзам Янам Твардоўскім і дачкой не менш славутага пісьменніка Стэфана Жэромскага. Ахвотныя даведаліся пра вялікую колькасць цікавых фактаў, такім чынам дадалі да кніжных ведаў унікальныя факты з жыцця гэтых літаратурных зорак.

У выніку ўсіх выпрабаванняў, кампетэнтнае журы вызначыла каля 20 лаўрэатаў з Польшчы. Тры асобы з Беларусі - Марыя Луцэвіч, Артур Жукоўскі і Эльвіра Пянькоўска-Антоньчык - атрымалі тытул фіналістаў, рэкамендаваны Галоўным Камітэтам Алімпіяды на атрыманне стыпендыі Урада РП і Міністра Нацыянальнай Адукацыі. Прасцей кажучы, яны сталі студэнтамі польскай філалогіі Варшаўскага Універсітэта, а ў дадатак, атрымалі каштоўныя кнігі. Іх настаўнікі - Таццяна Бялоцкая, Мар'я Крук і Лангіна Шчэпанік - атрымалі сімвалічную грашовую прэмію.

**Ул. інф.**

# Без нацыянальнай самасвядомасці мы - ніхто...



**Днямі ў Гародні ў памяшканні асацыяцыі «Віт» прайшоў семінар на вельмі надзённую і актуальную зараз тэму «Фармаванне ў вучняў нацыянальнай самасвядомасці на пазакласных занятках у школе. Пошукі і знаходкі». Ён быў арганізаваны Моладзевым Цэнтрам культуры імя К.Каліноўскага (МЦК), што працуе пры Гарадзенскім гарадскім грамадскім аб'яднанні ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сілаў, Каардынацыйным камітэце «Гродзенская ініцыятыва».**

Адкрыў і вёў семінар навуковы кіраўнік МЦК, дацэнт Гарадзенскага універсітэта імя Я.Купалы Мікола Мельнікаў **(на здымку ў першым радзе ў цэнтры)** , які пазнаёміў прысутных з праграмай дзейнасці Цэнтра культуры і некаторымі вынікамі яго працы.

На семінар быў запрошаны і выступіў старшыня Каардынацыйнага Камітэта «Гродзенская ініцыятыва» Сямён Домаш.

Цікавым і змястоўным было выступленне пра развіццё творчых здольнасцяў вучняў і вяртанне забытых імёнаў беларускай культуры настаўніка школы-гімназіі N3 Гародні Хведара Чычкана, які ўзначальвае тут аб'яднанне «Сугучча».

Затым пра змест і напрамкі працы гурткоў, што лучыць школьнае аб'яднанне «Бацькаўшчына» ў сярэдняй школе N24, удзельнікам семінара распавяла настаўніца беларускай мовы і літаратуры гэтай школы Святлана Барысік. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што многае робіцца ў гэтай школе па пастаўленай на семінары сёння тэме. І праца гэтая, вядома ж, нялёгкая і не заўсёды ўдзячная. Тым больш, што яе вынікі не заўсёды бачныя і адразу прыходзяць... Але ж, як падкрэсліла Святлана Станіславаўна, гэта ўжо добра, калі мы ў сваёй карпатлівай працы дастукваемся да душы хаця б аднаго дзіцяці...

Добрым сродкам аднаўлення гістарычнай памяці з'яўляецца новы музей гісторыі вуліцаў Гародні, які створаны ў сярэдняй школе N26 абласнога цэнтра. Пра гэта распавяла ветэран педагагічнай працы школы настаўніца Марыя Падбярозкая.

Ужо шмат гадоў актыўна працуе ў гэтай школе тэатральная студыя «Купалінка», пра якую расказаў яе мастацкі кіраўнік, настаўнік Альберт Мельнікаў.

Сённяшні наш погляд у мінуўшчыну, каб бачыць і прагладаць шляхі ў будучыню. Менавіта на гэта накіравана высакародная праца нашых музеяў, і без гэтага немагчыма тая ж нацыянальная самасвядомасць.

Значны ўклад у яе фармаванне ўносіць шматгранная дзейнасць музея школы N10 горада Слоніма, пра які на семінары распавёў яго стваральнік і кіраўнік Іван Карповіч. На базе музея вось ужо колькі гадоў працуе школьны гурток «Музейная справа».

Розныя напрамкі пазакласнай работы ў гэтай школе. Гэта і той жа літаратурна-творчы гурток, пра які расказала настаўніца беларускай мовы і літаратуры Таццяна Трафімчык.

Сваім багатым досведам плённай творчай работы з вучнямі падзялілася на семінары настаўніца школы N27 Гародні Галіна Дземчанка.

Цікавым і карысным для далейшай творчай работы з вучнямі было выступленне старшай выкладчыцы універсітэта, загадчыцы літаб'яднання «Ветразь» Святланы Тарасавай, якая паведаміла, што ў Моладзевым Цэнтры культуры імя К.Каліноўскага рыхтуецца да друку зборнік вершаў дзяцей пра Беларусь.

Пра дзейнасць школы правоў чалавека і Гарадзенскую «Ратушу» расказаў каардынатар і выкладчык школы Фелікс Гавін. Затым былі падведзеныя вынікі работы семінара. Падкрэсліваючы ўзрастаючую ролю ў нашым жыцці пытання, што абмяркоўвалася на семінары, яго актуальнасць, навуковы кіраўнік Моладзевага Цэнтра культуры, дацэнт універсітэта Мікола Мельнікаў сказаў гранічна зразумела, што без нацыянальнай самасвядомасці мы - ніхто, мы - нішто... Гэта павінен усвядоміць кожны, куды б мы ні ішлі - на захад ці на ўсход, і якія б кірункі не трымалі. «Менавіта з гэтага пачынаецца чалавек як асоба,» - падкрэсліў навуковец. І немалаважна тут тое, каб малады чалавек прыйшоў да гэтага сам, адчуў гэта сваёй істотай, а не нейкі там добры дзядзька, ці нават сябра, сусед імкнуцца ўдаўбсці яе ў юную галаву. Прычым, гэта высакародная гуманная работа, і яна не выходзіць за рамкі прававога поля і тым больш выхаваўчага. Праўда, работа гэтая карпатлівая, доўгая, па крупінках складаецца падмурак самасвядомасці юных грамадзянаў нашай беларускай Бацькаўшчыны, але ж без гэтага не толькі мы самі не адродзімся, але і не будзе ў нас новых наступных пакаленняў, пераемнасці, як кажуць, а без гэтага - і самой будучыні...

**Аляксей Дземідовіч**

# Усе на з'езд!

**26 чэрвеня ў Гродне пройдзе Устаноўчы з'езд рэспубліканскай структуры прадпрымальнікаў.**

Як даводзіць каардынатар акцыі Валерый Леванеўскі, якая гэта будзе структура - Саюз прадпрымальнікаў Беларусі ці прафсаюз прадпрымальнікаў Беларусі - вырашыць з'езд.

Пакуль што аргкамітэт не атрымаў дазволу на памяшканне для правядзення з'езда, аднак, калі сітуацыя не зменіцца, прадпрымальнікі гатовыя «паехаць на прыроду» і правесці з'езд там.

Прадстаўніцтва на з'ездзе - адзін голас ад 20-ці давяральнікаў. Інфармацыя наконт удзелу - у старшыняў свабодных прафсаюзаў і кіраўнікоў ініцыятыўных груп.

ПЯРЭСТЫ КУТ

# Гродна «абаяў» фотамастакоў

**У Сенатарскай зале Новага замка дзейнічае надзвычай яркая фотавыстава «Гродна на мяжы тысячагоддзяў». Яна будзе доўжыцца каля месяца.**

Гэтая выстава - вынік міжнароднага фотапленэра, які адбыўся ў верасні 1999 года ў межах III Рэспубліканскага фестываля міжнацыянальных культураў. Арганізатарам стаў фотаклуб «Гродна». На думку старшыні фотаклуба Аляксандра Ласьмінскага, мэтай пленэра і выставы стала «паўтарыць сродкамі сучаснай мастацкай фатаграфіі досвед першых фатографаў... Выстава адлюстроўвае горад напрыканцы XX - у пачатку XXI стагоддзяў, які вабіць добразычлівасцю і непаўторным шармам».

У экспазіцыю ўвайшло каля 150 работ 23-х аўтараў. Пярлінай выставы стала унікальная калекцыя паштовак пачатку XX стагоддзя, аўтар якіх - ураджэнец Наваградчыны Ян Булгак. Фотамастак жыў і працаваў у Вільні - і ім ганарацца літоўцы. Пазней пераехаў у Польшчу. Фатаграфаваў Варшаву і ў 30-я гады стаў заснавальнікам Саюза польскіх фотамастакоў. На пачатку XX стагоддзя здымаў краявіды Гродна, Наваградка, Ліды, Міра, Нясвіжа, Менска.

На выставе можна ўбачыць творы фотамастакоў з Беларусі, Польшчы, Літвы, Расеі, што працуюць у жанры архітэктурнага пейзажу. Выстава запрашае гледача павандраваць па вуліцах Гродна, углядаючыся ў фота. Шпацыруючы па гораду сярод мітусні людскога тлуму мы амаль не заўважаем таго, што складае непаўторнасць і прыгажосць нашага горада. Фотамастак з Літвы Гінтарас Кандротас разглядзеў і паказаў нам на сваіх фота яркія дахі з чарапіцы на дамах старога горада і брукаванку на адной з вуліцаў, што вядзе да сучаснай шматпавярхоўкі. Станіслаў Ламакін выявіў прыгажосць ліхтара на аблупленай чырвонай сцяне будынка гарадзенскай турмы. Выбар сюжэту і ракурсу адкрывае і творчую індывідуальнасць фотамайстроў. Яўген Казюля з Менска ўпадабаў наш драмтэатр і забавы са спецэфектамі. А Аляксандр Ласьмінскі не абмінуў сваёй увагай Ленінскі райвыканкам з чырвона-зялёным сцягам на даху.

Мастакі выбіралі моманты, калі ў полі зроку не было людзей. Таму Гродна на іх работах атрымаўся рамантычна-маўклівым. Адзіны тэхнічны недахоп выставы - адсутнасць подпісаў пад фотаздымкамі, якія б тлумачылі, што за куток горада тут зняты. Атрымалася, як у тэлевіктарыне Аляксандра Ласьмінскага «Вядомы - невядомы Гродна»: убачыў здымак - здагадайся, дзе гэта, на якой вуліцы.

Большасць здымкаў зроблена ў гістарычным цэнтры горада, які з'яўляецца архітэктурным запаведнікам і знаходзіцца пад аховай дзяржавы.

Пасля пленэра прайшоў конкурс на лепшы макет паштоўкі. Пераможцам стаў Ігар Коршунаў (фотаклуб «Гродна») са здымкамі Новага замка, Каложы, старажытнага мура на Замкавай гары. Нядаўна па матэрыялах пленэра выдадзены буклет «Гродна на мяжы тысячагоддзяў».

**Алена Сіневіч**

1. Герой Айчыннай вайны 1812 года, палкаводзец, помнік якому пастаўлены ў Ваўкавыску. 2. Лётчык-касманаўт, ураджэнец Беларусі. 3. Беларускі паэт-гуманіст і асветнік эпохі Адраджэння. 4. Мемарыяльны архітэктурна-скульптурны ансамбль на ўшанаванне памяці ахвяраў фашызму на тэрыторыі ў 1941-1945 гадах, створаны на месцы колішняй вёскі ў Лагойскім раёне, якую спалілі фашысты 22 сакавіка 1943 года разам з жыхарамі. 5. Адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху на Беларусі ў гады грамадзянскай і Вялікай Айчыннай вайны. 6. Навуковец, асветнік і культурны дзеяч Беларусі, мастак-графік эпохі Адраджэння. 7. Бацька Мінай, адзін з арганізатараў і кіраўнікоў партызанскага руху ў Віцебскай вобласці. 8. Вёска ў Слаўгарадскім раёне, дзе ёсць капліца мемарыяльнага комплексу, узведзенага ў вёсцы ў гонар 200-годдзя перамогі рускіх войскаў над шведамі ў 1712 годзе.

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Г | І | С | Т | О | Р | Ы | Я |

**Адказы на крыжаванку, змешчаную ў N20:**

1. Геральдыка. 2. Асінторф. 3. Флейта. 4. Арбалет. 5. Трыфорыум. 6. Мінск. 7. Капліца. 8. Азгур. 9. Развалкі.

ТЭСТ

# Ці важны для Вас секс?

**Заканчэнне. Пачатак у N20 ад 8 чэрвеня г.г.**

**19. Што Вас найбольш узбуджае?**

а) эратычныя фотаздымкі - 5 балаў; б) калі глядзіце на сваё цела ў люстэрка - 1; в) аголенае цела жанчыны (мужчыны) - 3.

**20. Вашы эрагенныя зоны знаходзяцца...**

а) на шыі - 3 балы; б) на жываце - 1; в) на ўнутраным баку сцёгнаў - 6; г) на ягадзіцах - 5; д) на спіне - 4; е) на ўсім целе - 2.

**Падвядзем вынікі**

Падлічыце тую суму балаў, што ў Вас атрымалася за адказы на ўсе 20 пытанняў.

**24-50 балаў.** Нават дзіўна, што Вы зацікавіліся гэтым тэстам, напраўду. Секс для Вас абсалютна не важны. Вы чалавек цікаўны, таму секс выклікае ў Вас нейкі інтарэс, але пачуццяў Вы баіцеся. Не хапае ў Вас рашучасці праявіць ініцыятыву, а тым больш Вы не дапускаеце, каб гэта зрабіў нехта іншы. Калі Вы чалавек досыць малады, то спяшацца не варта. Радасць кахання, пяшчоты ды інтымнай блізкасці спазнаць яшчэ паспееце. А калі перажылі нейкае расчараванне, дык пераканайце сябе, што годзе баяцца. Урэшце рэшт, усё залежыць толькі ад Вас.

**51-77 балаў.** У Вас усё о'кэй! Вы надаеце сексу не надта вялікае і не надта малое значэнне. У жыцці Вы больш-менш арыентуецеся, таму ведаеце, што людзі - істоты не бясполыя. У гэтай галіне для Вас забаронных тэмаў не існуе. Вы цэніце індывідуальнасць кожнага, ведаеце, што Вам трэба. Каханне без сексу і наадварот не прызнаеце, таму што Вам будзе нечага не хапаць, нейк маркотна без пачуццяў. Аднак не задзірайце нос! У такіх далікатных справах майстрамі не нараджаюцца. Вам давядзецца яшчэ шмат чаго спазнаць і зразумець: дзе секс, а дзе каханне. Гэта ж таксама даволі цікава...

**78-102 балы.** У Вашым жыцці над усім пануе секс. Але галоўным чынам - у Вашых фантазіях. Чыясьці ўсмешка, позірк, нязначны флірт выклікаюць у Вас неўтаймаваныя фантазіі. Відаць, варта нейк перагледзець сваё стаўленне да сексу. Ведаеце, ідэальны секс - гэта яшчэ не ідэальная(-ы) каханка (каханак). Для Вас гэта нешта накшталт спорту: ставіце мэту і дасягаеце яе. Паслухайце.., канешне, секс - важная рэч. Аднак тыя, хто яго пераацэньваюць, як гэта робіце Вы, рызыкуюць усё жыццё ганяцца за несапраўднымі каштоўнасцямі. Не трэба прыпадабняцца жывёліне. Секс надзвычай цудоўны, калі яму спадарожнічаюць каханне, чуйнасць, захапленне, давер, пяшчота, узаемаразуменне і бяспека.

# Як стары пыласос уплывае на палітыку

**9-10 чэрвеня ў будынку Міжнароднага адукацыйнага цэнтра ў Менску адбыўся семінар «Правы жанчынаў у грамадскім і палітычным жыцці».**

Для многіх стане адкрыццём тое, што болей як палова насельніцтва Беларусі - жанчыны, і яны маюць права на адпаведнае колькасна прадстаўніцтва сваіх інтарэсаў у вышэйшых органах улады. Так лічаць арганізатары семінара і круглага стала на тэму выбараў-2000 - аб'яднанне «Жаночы незалежны дэмакратычны рух» (ЖНДР). Сорамна каму сказаць, але ў нашай суверэннай цывільнай краіне ў цэнтры Еўропы яркіх жанчынаў-палітыкаў - раз-два і аблічыўся. І прычыны гэтага крыўдныя, тыя, што ўсе людзі даўно пакінулі на сумленні гісторыі: загружанасць жанчынаў працай на рабоце і дома, «дапатопны» недавер да іх арганізацыйных здольнасцяў і гэтак далей. Дзеля ілюстрацыі прывядзем лічбы: на 100 хатніх гаспадарак у нас 56 пыласосаў (прычым, старых мадэляў), 15 кухонных камбайнаў. Доля сем'яў, што апынуліся па-за рысай беднасці, перавалiла за 2/3. Якая можа быць палітыка, калі хату прыбраць няма чым і невядома, з чаго прыгатаваць абед? Менавіта з-за таго, што большасць людзей думае толькі пра тое, як выжыць, доля жаночых арганізацыяў у НДА складае ўсяго 1-2 працэнты. Гарадзеншчына ў рэйтынгу грамадскай актыўнасці прадстаўніцаў прыгожай паловы чалавецтва - на апошнім месцы ў параўнанні з іншымі рэгіёнамі.

Фактам з разраду фантастыкі падалася ўдзельніцам семінару сустрэча з жанчынай-пастарам евангельскай царквы зямлі Паўночны Рэйн-Вестфалія Эльке Маркманн. Як вядома, дамінуючыя канфесіі ў Беларусі - каталікі і праваслаўныя - не дапускаюць у сваё кіруючыя структуры жанчынаў. Праўда, ніводзін са святароў дагэтуль мне так і не здолеў растлумачыць, чаму, і што дакладна не дазваляе ім выбраць епіскапам ці кардыналам жанчыну. Людміла Пецяна (ЖНДР) лічыць, што «такім чынам царква фарміруе патрыярхальную ідэалогію, якая ўказвае на неабходнасць беспярэчнага падпарадкавання жанчынаў ва ўсіх сферах - у сям'і, грамадстве, палітыцы, царкве».

Аднак падобна на тое, што нашыя «прадвінутыя» жанчынкі з болей як 20-ці арганізацыяў з розных абласцей рэспублікі, што сустрэліся на семінары, не згодныя асабліва падпарадкоўвацца. Напрыканцы сустрэчы было вырашана актыўна ўдзельнічаць у восеньскіх выбарах у Парламент і асабліва падтрымліваць жанчынаў-кандыдатак. Так што палітычная восень-2000 павінна стаць дэбютам беларускіх жанчынаў у палітычных баталіях.

**Алена Сіневіч**




# Анекдоты

Няголены, увесь сіні бомж з нейкімі торбамі падыходзіць да пункту здачы шклатары.

- Вы бутэлькі з-пад шатландскага віскі прымаеце?
- Не!
- А чаму?
- Няма тары, сэр!

***

Званок у кабінеце Ельцына.

Памочнік бярэ трубку.

- Барыс Мікалаевіч, Вас прэм'ер-міністр.

Ельцын:

- Калі гэта Чарнамырдзін ці Кірыенка, то мяне няма, калі гэта Прымакоў ці Сцяпашын, то я вазьму.

Памочнік:

- Гэта Пуцін!

***

«Новаму рускаму» прыходзіць паведамленне на пэйджар: «Тата! Тэрмінова завязі страусаў у Антарктыду. Сыплюся па геаграфіі!»

***

Маладыя сварацца:

- Ужо абед табе не даспадобы, гад! А да вяселля бажыўся, што дзеля мяне ў магілу ляжаш!
- Ну, добра, - хрысціцца муж, - давай свае катлеты.

***

Настаўнік музыкі кажа Вовачку:

- Папярэджваю, што калі не будзеш весці сябе належным чынам, я скажу тваім бацькам, што ў цябе ёсць талент.

# Гараскоп

♈ **Баран (21.03-20.04).** Раптоўныя турботы могуць узнікнуць у сувязі з тым, што Вашым сябрам і сваякам спатрэбіцца падтрымка.

♉ **Бык (21.04-20.05).** Тыдзень будзе цесна звязаны з назапашваннем духоўнага патэнцыялу. Не давайце залішняй волі тэмпераменту.

♊ **Блізняты (21.05-21.06).** Не бярыцеся за выкананне праектаў, у ажыццяўленне якіх слаба верыце.

♋ **Рак (22.06-22.07).** Прытрымайце сваю схільнасць да празмерных выдаткаў - бюджэт не гумовы, а перыяд вялікіх поспехаў не вечны.

♌ **Леў (23.07-23.08).** Не варта канфліктаваць з афіцыйнымі асобамі, бо негатыўным чынам гэта можа паўплываць на Вашу дзейнасць.

♍ **Панна (24.08-23.09).** Гэты тыдзень запатрабуе ад Вас большай рашучасці і ўпэўненасці ў сабе, інакш нічога не зрушыцца з месца.

♎ **Шалі (24.09-23.10).** Больш дыпламатыі на працы - гэта дапаможа Вам вырашыць шэраг праблемаў. Узрадуюць поспехі сваякоў.

♏ **Скарпіён (24.10-22.11).** Надышоў час на тое, каб наладзіць новыя дзелавыя знаёмствы, што надалей стануць падмуркам многіх Вашых пачынанняў.

♐ **Стралец (23.11-21.12).** Не асабліва разлічвайце на ўдачу у справах, больш даверу сябрам і знаёмым. Значна ўмацуеце сваё матэрыяльнае становішча.

♑ **Казярог (22.12-20.01).** Паспрабуйце зразумець сваіх апанентаў: магчыма, у іх словах і ўчынках ёсць рацыянальнае зерне. Будзьце ўважлівей.

♒ **Вадалей (21.01-19.02).** Болей самадысцыпліны і засяроджанасці, максімальная канцэнтрацыя на справах - вось што будзе неабходна Вам увесь тыдзень.

♓ **Рыбы (20.02-20.03).** На выхадных ёсць верагоднасць апынуцца ў даволі няёмкай сітуацыі, выйсці з якой дапаможа пачуццё гумару.

ПАГОНЯ
Заснавальнік: культурна-асветніцкі фонд "Бацькаўшчына"

Адрас рэдакцыі: 230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 11. Тэл.72-37-14, 72-35-61, факс 72-29-96. E-mail: pagonia@irex.minsk.by
Падпісны індэкс: **63124.**

Рэгістрацыйны нумар 597. Нумар газеты надрукаваны ў Гарадзенскай абласной узбуйненай друкарні. Адрас: 230023, г.Гродна, вул. Паліграфістаў, 4.
Замова 1938. Тир. 7110.
Нумар падпісаны да друку ў 16.00 14.06.2000 г.

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць асабістую адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў, іх меркаванні не абавязкова адлюстроўваюць погляд рэдакцыі. Якасць друку адпавядае пададзеным рэдакцыяй дыяпазітывам.
Аб'ём - два ўмоўныя друкарскія аркушы.

Галоўны рэдактар Мікола Маркевіч

Камп'ютарны набор: Аксана Бурдзюк, камп'ютарная вёрстка: Аляксей Салей